

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 32 (718) 24 ЖНІЎНЯ 2005 г.

# Вяртанне Пагулянкі




На мінулым тыдні на Нясвіжчыне здарылася падзея выключнай важнасці - тром населеным пунктам вернуты іх адвечныя назвы. Яшчэ за даўнім савецкім часам самадзейнай воляй мясцовых чыноўнікаў населены пункт Пагулянка з-за таго, што тут размяшчаўся цагельны завод, быў перайменаваны ў пас. Цагельны. Цэглу там не робяць з сярэдзіны 60-х, а назва трывала на шыльдах і ў паперах, хаця навакольны люд так і працягваў гаварыць: "Пагулянка".

Таксама вёску Заазер'е, дзе будаваліся дамы для рабочых эксперыментальнай станцыі "Ганусава", пачалі іменаваць пас. Ганусава, а Альбу, дзе жывуць рабочыя Біяміцынавага завода, - пас. Біязавода.

І вось, як паведамілі карэспандэнту "Нашага слова" ў Нясвіжскім райвыканкаме, у ДЭУ-168 (дырэктар Дуброўскі І. Л.), якое адказвае за шыльды на дарогах, задаліся пытаннем, чаму людзі гавораць так, а на шыльдах - па-іншаму. Высветлілася, што ніякіх рашэнняў райвыканкаму аб перайменаванні гэтых населеных пунтаў няма і ніколі не было, а, значыць, юрыдычна правамерныя старадаўнія назвы. У выніку па ўзгадненні з галоўным архітэктарам раёна былі ўстаноўлены шыльды з адвечнымі назвамі. Ізноў радуе вока вясёлая **Пагулянка**, мілагучнае **Заазер'е**, славутая на ўвесь свет **Альба**.

Вось так, недзе гавораць, а недзе робяць.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# 70 гадоў акадэміку НАН А. І. Падлужнаму



16 жніўня споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага мовазнаўца акадэміка НАН Беларусі А. І. Падлужнага. Аляксандр Іосіфавіч Падлужны нарадзіўся ў в. Залессе Мсціслаўскага раёна. У 1954 г. скончыў Мсціслаўскую педнавучальню, а ў 1959 г. — аддзяленне беларускай мовы і літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Доктар філалагічных навук (1982), прафесар (1989), акадэмік Акадэміі навук Беларусі (1994). З 1962 г. і па сённяшні дзень працуе ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа. На працягу 14 гадоў — з 1989 па 2003 — узначальваў гэтую навуковую ўстанову.

А. І. Падлужны - аўтар шматлікіх прац па розных праблемах беларускай фанетыкі і фаналогіі, сучаснай беларускай лексікаграфіі, граматыкі, правапісу і культуры мовы. Шэраг яго прац адрасаваны тым, хто жадае вывучыць беларускую мову. Ён адзін з аўтараў кнігі "Беларуская мова для небеларусаў", якая вытрымала некалькі выданняў.

Аляксандр Іосіфавіч Падлужны шмат сіл і часу аддае грамадскай дзейнасці. Ён стаяў ля вытокаў стварэння ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"і сёння прымае актыўны ўдзел у найважнейшых мерапрыемствах нашай арганізацыі. А.І. Падлужны плённа працаваў у грамадскай камісіі па рэфармаванні беларускага правапісу ў 90-х гг. Ён адзін з аўтараў Закона аб мовах Рэспубліцы Беларусь 1989-г.

Таварыства беларускай мовы віншуе шаноўнага юбіляра з Днём нараджэння. Сябры нашай грамадскай арганізацыі шчыра жадаюць Аляксандру Іосіфавічу добрага здароўя, сілы духу, прынцыповай пазіцыі па ўмацаванні дзяржаўнасці беларускай мовы, навуковага плёну на карысць нашай Бацькаўшчыны і беларускага мовазнаўства.

# Новае выданне ТБМ

Да 75-годдзя з дня народзінаў Уладзіміра Караткевіча, якое Беларусь адзначыць сёлета 26 лістапада, ТБМ імя Ф. Скарыны выдала каляндарык на 2005/2006 навучальны год. Каляндарык выдадзены на грунце надрукаванага раней плаката, дызайн Ігара Марачкіна.

Каляндарыкі можна знайсці ў сядзібе ТБМ у Менску на вул. Румянцава, 13, а таксама ў многіх рэгіянальных арганізацыях ТБМ.

***Наш кар.***




# Віншуем "Жанчыну свету - 2005"



Амерыканскі біяграфічны інстытут у штаце Паўночная Караліна (ЗША) прысвоіў званне "Жанчына 2005 года" вядомай беларускай пісьменніцы і грамадскаму дзеячу Вользе Іпатавай. Яе імя ўключана ў IX выданне даведніка "Хто ёсць хто сярод прафесіяналаў і дзелавых жанчын у свеце", які выпускаецца інстытутам.

Каментуючы гэтую падзею ў інтэрвію БелаПАН, В.Іпатава адзначыла павышэнне цікавасці да прафесіянальнага і дзелавога росту жанчын у свеце. "Вельмі важна, каб гэтая тэндэнцыя праявілася і ў Беларусі, каб у будучы айчынны парламент жанчыны не "прызначаліся" па 30-працэнтнай квоце, а абіраліся ў выніку свабодных дэмакратычных выбараў і займаліся эфектыўнай працай на карысць грамадства", — сказала Іпатава.

**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" віншуюць сябра Рады ТБМ, актыўнага змагара за беларускую мову з міжнародным прызнаннем і зычаць плёну ў працы на карысць нашай Бацькаўшчыны.**





# "ЗАКАДЫЧНЫ" І ІНШАЕ

У апошнія восем гадоў стала вельмі модным праводзіць рэферэндумы. Чуць што, так і рэферэндум. А яшчэ часцей робяцца сацыялагічныя апытванні па розных надзённых пытаннях. Уявім такую карціну: некаму з тых, хто пры ўладзе, узбрыло ў галаву правесці рэферэндум ці хоць бы сацыялагічнае даследаванне наконт слова ***"закадычны"***. І каб не маніпуляваць грамадскай думкай даверлівых беларусаў, два розныя, хоць і сумежныя пытанні не аб'ядноўваюцца ў адно, а даюцца паасобку. Першае: "Ці вядомае вам слова ***"закадычны"***?. Другое: "Ці ўжываеце вы хоць зрэдку гэтае слова?" Аб'ектыўнасць вынікаў рэферэндуму кантралюецца шматлікімі камісіямі ад уладных структур і ад апазіцыі, а таксама з міжнароднай арганізацыі – Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека.

Можна з вялікай упэўненасцю сцвярджаць, што (нават пры некаторай прывычнай, ужо традыцыйнай фальсіфікацыі з боку выбарчых камісій) адказы на абодва пытанні будуць ашаламляльныя, цалкам станоўчыя, ледзь не стопрацэнтовыя.

Калі ж у Інстытуце мовазнаўства НАН Беларусі складаюць акадэмічныя слоўнікі, то, зразумела, абыходзяцца без рэферэндумаў і сацыялагічных апытванняў. Даўным-даўно ўжо існуе сусветная традыцыя: ва ўсіх краінах свету, дзе ёсць развітыя літаратурныя мовы, нарматыўныя слоўнікі складаюцца на аснове шматмільённай картатэкі, дзе на кожнае слова маюцца дзесяткі ці сотні прыкладаў-цытат з мастацкай, публіцыстычнай і навуковай літаратуры. Моўная норма фіксуецца пры апоры на маўленчую практыку аўтарытэтных аўтараў, рэгулярнасць ужывання таго ці іншага слова, выразу ці іх варыянтаў, на іншыя крытэрыі, істотныя пры кадыфікацыі нормы.

Акадэмічны пяцітомны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" на адпаведным алфавітным месцы апісаў прыметнік ***"закадычны"***, паказаўшы, што ён мае формы мужчынскага, жаночага ***(-ая)*** і ніякага ***(-ае)*** роду, абазначае "вельмі блізкі, сардэчны (пра сябра, сяброўскія адносіны)". Прыводзяцца два адпаведныя пацвярджэнні – ілюстрацыйны матэрыял. Адно з іх – з трылогіі класіка беларускай літаратуры і аднаго з заснавальнікаў беларускай літаратурнай мовы Якуба Коласа: "Смалярня стала на некаторы час галоўным штабам двух закадычных прыяцеляў, Лабановіча і Тукалы". Яшчэ адзін слоўнікавы прыклад – таксама не з другарадных аўтараў – Алеся Якімовіча: "(Юзік) ахвотна згаджаўся з усім, з чым былі згодны яго закадычныя сябры Васіль і Міхась".

Можа, каму здасца, што тут мала прыкладаў – ілюстрацый (усяго два). Але такая была дадзена ўстаноўка "зверху": у ЦэКа дазволілі выдаць першы ў жыцці Беларусі вялікі тлумачальны слоўнік беларускай мовы, але не больш як у 5 тамах. І складальнікі (пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы) як ні стараліся ўкласціся ў дазволеную норму, але не ўкладліся. Прыйшлося прасіць дазволу выдаць пяты том ў дзвюх кнігах. "Зверху" крыху прыгразілі, але далі дазвол.

Між іншым, у рускіх слоўніках (напрыклад, у 18-томным) часам прыводзіцца пад загаловачным словам па 5, а то і па 10 цытат. У "Фразеологическом словаре русского языка" (1967) ужыванне выразу "кривить душой" ілюструецца 9 цытатамі. А ў "Словаре русскх пословиц и поговорок" У. П. Жукава (2000) функцыянаванне прыказкі "Волков бояться – в лес не ходить" пацвярджаецца 13 цытатамі. Прыгадваецца прыклад з уласнай практыкі. Калі я рыхтаваў да друку двухтомны "фразеалагічны слоўнік беларускай мовы", у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" далі ўстаноўку: значэнне кожнага выразу і іншая інфармацыя аб ім ілюструецца ў слоўніку не больш як дзвюма цытатамі. Калі фразеалагізм мае не адно, а два ці тры значэнні, колькасць цытат адпаведна павялічвалася. Праўда, у некаторых выпадках я дабіўся большай колькасці ілюстрацый, матывуючы гэта рознымі прычынамі, часцей за ўсё неабходнасцю пацвердзіць шырокае выкарыстанне ў сучаснай беларускай літаратурнай мове пэўнага фразеалагізму, які ў асобных лінгвістычных або літаратуразнаўчых працах беспадстаўна кваліфікуецца як "непатрэбнае запазычанне", "не вельмі зграбная калька" і г.д. Менавіта па гэтай прычыне, напрыклад, двухзначны выраз "ні к сялу, ні к гораду", занатаваны яшчэ ў зборніку І.І. Насовіча (1874), ілюструецца ў ФСБМ не чатырма, а сямю цытатамі з твораў Я. Коласа, К. Чорнага, М. Лынькова, А. Чарнышэвіча, М. Лобана і інш.

Думаецца, гэтак жа і складальнікі пяцітомнага ТСБМ маглі б, калі б іх не абмяжоўвалі, праілюстраваць слова ***"закадычны"*** не дзвюма цытатамі, а дзесяткамі. Вось некалькі прыкладаў – з маёй картатэкі. К. Крапіва (рэдактар амаль усіх акадэмічных слоўнікаў) у адной байцы піша, што хлопчык "меў шмат закадычных адданых сяброў, гусей з імі пасвіў і нават кароў". Яшчэ прыклады? 1) – Земляком прыкінуўся, сябрам закадычным! – усё больш распальваў сябе Андрэй (М.Лынькоў); 2) Сёння нават пабыў Марцін у свайго закадычнага сябра Рыгора Галузы (М. Лупсякоў); 3) Міша і Грыша сапраўды былі закадычнымі сябрамі (А. Якімовіч).

У чытача, напэўна, Ужо прамільгнула думка: чаго я так прычапіўся да гэтага прыметніка? Патлумачу: 9.09.2004 г. у "Нашым слове" змешчана невялікая нататка пра слова "закадычны". Хто яе аўтар, невядома, бо яго прозвішча пад нататкай не пазначана. У ёй робіцца выснова, што гэта "неўласцівы беларускай мове фразеалагізм". Ёсць тут і іншыя няправільнасці, а яшчэ і падтасоўкі, зробленыя, каб толькі сцвердзіць згаданую выснову.

Перш за ўсё гэта ніякі не фразеалагізм, што выразна відаць з прыведзеных вышэй прыкладаў і з апісання прыметніка ***"закадычны"*** у ТСБМ (т. 2, с. 318-319). Праўда, ён адрозніваецца ад многіх іншых прыметнікаў найперш сваімі спалучальнымі магчымасцямі. Скажам, прыметнік "вясёлы" свабодна ўступае ў лексічную сувязь з вялікім мноствам розных слоў-назоўнікаў (хлопец, жартаўнік, настрой, характар, спектакль, чалавек і інш.), але зразумела, не з усімі: сувязі паміж словамі абумоўлены прадметна-лагічна. Прыметнік жа "закадычны" абмежаваны ў сувязях не прадметна-лагічнымі адносінамі, а ўнутранымі семантычнымі заканамернасцямі моўнай сістэмы. Яго лексічнае занчэнне "вельмі блізкі, сардэчны" выяўляецца толькі ў спалучэнні са строга акрэсленымі назоўнікамі, сваімі пастаяннымі кантэкставымі партнёрамі (сябар, прыяцель, друг). Інакш кажучы, гэтаму прыметніку ўласціва валентна абмежаванае значэнне. І да фразеалогіі гэта не мае ніякага дачынення.

Такіх слоў (з абмежаванай спалучальнасцю і валентнасцю) даволі многа. Напрыклад, прыметнік "праліўны" рэалізуе сваё значэнне "вельмі моцны" толькі пры спалучэнні з назоўнікам "дождж". Яшчэ прыклады: прасёлачная (дарога), траскучы (мароз), расквасіць (нос, твар), насупіць (бровы), патупіць (вочы), воўчы (апетыт), вытарашчыць (вочы), бляе (авечка), высалапіць (язык), воўчыя (ягады) і г.д. Зразумела, што ні "закадычны", насуперак сцвярджэнню невядомага аўтара нататкі, ні "праліўны дождж" і сотні іншых падобных спалучэнняў ніяк нельга залічваць у фразеалогію, бо кожны фразеалагізм мае цэласнае, сэнсава непадзельнае значэнне, несуадноснае са значэннямі асобных слоў-кампанентаў. Напрыклад, "і жук, і жаба" абазначае "усе без выключэння, усякі, кожны чалавек".

У нататцы сказана, што "Руска-беларускі слоўнік" (1953) пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі "падае: Закадычный: 3. друг *разг.* неразлучны друг, шчыры друг". Пасля дадаецца: "Пацверджана гэта і ўсімі наступнымі перавыданнямі гэтага даведніка. Напрыклад, РБС-82, РБС-93 і інш.".

Нельга, аднак, забываць, што згаданы даведнік (1953 г.) укладаўся ў цяжкіх умовах ваеннага часу і ў першыя пасляваенныя гады, што ў яго складальнікаў і рэдактараў не было пад рукамі ні картатэкі, ні даведачнай літаратуры. А без хоць бы шматтысячнай картатэкі з ілюстарцыйным матэрыялам як асновай любога слоўніка, перакладнога ці тлумачальнага, цяжка пазбегнуць памылак. І іх хапае. Тут ёсць адна відавочная супярэчнасць. Рэдактары гэтага слоўніка Я. Колас і К. Крапіва як бы адмаўляюць існаванне ў беларускай мове прыметніка "закадычны", а самі, як было паказана вышэй, выкарыстоўваюць яго ў сваіх творах. А што да перавыданняў (1982, 1993 гг. і інш.) гэтага даведніка, разлічанага на перакладчыкаў з рускай мовы, дык перавыдаюцца яны амаль што стэрэатыпна. Часткова папаўняючыся новымі, нядаўна ўзніклымі словамі.

Есць у нататцы і іншыя падтасоўкі. Сцвярджаецца, напрыклад, што, апрача ТСБМ (т. 2, с. 318-319), "ніводны іншы беларускі слоўнік не фіксуе гэтага выслоўя". Але гэта няпраўда. У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К. Крапівы (1988, т. 1, ст. 441) чытаем: "Закадычны разг. закадычный". Фіксуецца гэта слова і ў нарматыўным акадэмічным даведніку "Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словаўтварэнне" пад рэдакцыяй М.В. Бірылы (1987, с. 246): ***закадычны*** разм.

Цікава: на каго разлічана такая дэзінфармацыя і на чый млын лье ваду гэты невядомы аўтар?

Сцвярджаецца, што "новы" Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (1996) справядліва не падае на сваіх старонках гэтага неўласцівага беларускай мове фразеалагізму". Але ж гэты слоўнік – аднатомнік. У ім усяго 60 000 слоў. Як жа ён мог змясціць у сабе абсалютна ўсе словы, якія даюцца ў ТСБМ (у ім 100 000 слоў) ці ў СБМ (у ім 118000 слоў)? Як бачым, тут з боку аўтара нататкі чарговы ход канём.

Пачынаецца нататка вялікім урыўкам з ТСБМ, дзе апісваецца прыметнік "закадычны". Але ва ўрыўку знарок апускаецца ілюстрацыйны прыклад з трылогіі Я. Коласа. Бо гэта не на карысць аўтару нататкі. І гэта зноў ход канём.

Далей робіцца нібыта выкрыццё складальнікаў ТСБМ, якія як быццам скапіравалі прыведзены раней урывак – з вядомага "Слоўніка рускай мовы" С. І. Ожагава (1982, с. 184). Але ж калі супаставіць абодва ўрыўкі, дык няцяжка заўважыць, што яны шмат у чым адрозніваюцца. Да таго ж азначэнні, якія даюцца словам у тлумачальных слоўніках, аднолькавыя ў сусветнай лексікаграфічнай практыцы. Усюды – і ў Францыі, і ў Расіі, і ў Польшчы, і ў Беларусі – сэнс слова раскрываецца адным з чатырох вядомых у свеце спосабаў: апісальным, структурна-семантычным, сінанімічным і адсылачным. У тлумачальных слоўніках амаль усіх краін свету значэнне. Скажам, назоўніка "стол" раскрываецца аднолькава ці амаль аднолькава: "Прадмет мэблі ў выглядзе гарызантальнай дошкі на высокіх падпорах..." І гэта ніхто не лічыць спісваннем, капіраваннем і г.д.

Як бачым, усё ў разгледжанай нататцы хісткае, непраўдападобнае.

Што да паходжання прыметніка ***"закадычны"***, дык ён прыйшоў у беларускую мову з рускай, дзе, як засведчана ў этымалагічных слоўніках, утварыўся шляхам суфіксацыі прыназоўнікава-склонавай формы "за кадык" на аснове фразеалагізму заліць за кадык – "напіцца гарэлкі". На пачатку свайго жыцця словазлучэнне ***"закадычны друг"*** абазначала ***"сабутэльнік"***, а пасля, даўно ўжо, прыметнік стаў ужывацца з сучасным значэннем "вельмі блізкі, сардэчны". Гэты прыметнік, як і тысячы іншых слоў, запазычаных з рускай, польскай, украінскай, англійскай, французскай і іншых моў, даўно стаў фактам беларускай мовы, і зусім неразумна і нелагічна падымаць меч супраць яго ці заносіць сякеру над ім.

А такія выпадкі нярэдкія. Напрыклад, яшчэ ў адной нататцы (Наша слова. 28.04.2004) на поўным сур'ёзе раяць ужываць замест назоўніка "подзвіг", запазычанага з рускай мовы, "натуральнае, з спрадвечным коранем – ***чын-*** слова ***вычын***". Але гэта ўжо вяршыня абсурду. Настойліва і самаўпэўнена раяць яшчэ замест ***"першабытнаабшчынны лад"*** гаварыць і пісаць ***"першабытнаграмадоўскі..."***, замест ***"нармальны"*** – ***"нармалёвы"*** і г.д. А ці не пахне ўсё гэта завуаляванай дыскрымінацыяй нашай мовы ды знародчыстым, мэтанакіраваным жаданнем адпужаць ад яе і тую невялікую жменьку людзей, якія пакуль што размаўляюць па-беларуску, і тых, хто мог бы яшчэ далучыцца да гэтай жменькі, але баіцца, што сказанае ім "дасведчаныя мовазнаўцы" палічаць "неўласцівым беларускай мове", "падгонкай пад усесаюзны стандарт" і г. д.

Можна прыводзіць дзесяткі, а то і сотні падобных прыкладаў. Пару месяцаў таму адна студэнтка, прачытаўшы мой артыкул у "Нашым слове" (18.08.-2004), спытала ў мяне: "А што такое ***простае*** занчэнне слова і ***наўпростае***?" Я сказаў, што ў гэтых нечаканых тэрмінах гаворка ідзе аб ***прамым*** значэнні слова. І дадаў, што на старонках гэтага штотыднёвіка часам выкідваюць конікі, замяняюць агульнапрынятае, нарматыўнае, узаконенае чымсьці сваім, надуманым, мяркуючы гэтым самым абеларусіць нашу мову. А ў ёй спакон веку былі прыметнікі ***прамы*** і ***просты***, але не як сінонімы; фіксуюцца яны і ў "Слоўніку беларускай мовы" І.І. Насовіча (1870, с. 530, 536). Калі заглянуць у ТСБМ (т. 4, с. 307 і 399), то няцяжка ўбачыць, што "прамы" мае 8 значэнняў і 5 адценняў; 6-е значэнне – "не пераносны, літаральны (пра значэнні слоў)"; "просты" мае 12 значэнняў і адно адценне. Толькі ў адным значэнні ("роўны, без выгінаў") гэтыя прыметнікі сінанімізуюцца. Таму замяняць узаконены і адзіна правільны састаўны мовазнаўчы тэрмін "прамое значэнне слова" нейкім "простым" ці "наўпростым" – абсурд. Прамое значэнне мае такую назву таму, што яно прама (не проста!), непасрэдна, без прамежкавых сувязяў звязана з пэўным прадметам, дзеяннем, з'явай, якасцю і інш.

Ніяк не магу дадумацца, чаму мы не хочам ці не можам сур'ёзна зразумець, у якія нялёгкія часіны мы жывём, у часіны, калі рашаецца лёс нацыі і мовы як яе сарцавіны. Нельга сёння папраўляць, абнаўляць тое, што на вачах гіне. "Цяпер, - пісаў Васіль Быкаў, - не трэба быць вялікім правідцам, каб зразумець важнасць для нацыі адзінай літаратурнай мовы, якую трэба ўсямерна шанаваць, берагчы", а не разбураць "нацыянальнае адзіства літаратурнай мовы моўным эксперыментатарствам, стылявымі і лексічнымі пошукамі на перыферыі". Цвяроза, сур'ёзна ацэньваючы час і прастору, у якіх мы існуем, крыху пазней у адным інтэрвію В. Быкаў гаварыў: "У гэтых умовах хоць бы захаваць якуюнебудзь цэльнасць беларускай мовы!" І яшчэ: "Настаў час, калі нельга развіваць культуру. Важна хоць бы захаваць тое, што напрацавана ранейшымі пакаленнямі, закансерваваць яго..." А незадоўга да адыходу ў іншы свет ён пісаў: "Я лічу, што з пераходам на тарашкевіцу ў нас паспяшаліся. Цяпер не той час, бо ёсць вельмі вялікая небяспека таго, што мы, беларусы, можам наогул застацца без нармальнай агульнапрынятай граматыкі". Дык прыслухаемся ж да наказу нашага дарагога прарока нацыі!

***Іван Лепешаў.***



# Нам не патрэбна рускамоўная хваля

## ПРЭЗІДЫУМ РАДЫ БНР ЗАКЛІКАЎ ПЕРАГЛЕДЗЕЦЬ РАШЭННЕ АБ РУСКАМОЎНЫМ ВЯШЧАННІ НА БЕЛАРУСЬ "НЯМЕЦКАЙ ХВАЛІ"

Прэзідыюм Рады БНР вітае стварэнне альтэрнатыўных крыніц інфармацыі для жыхароў Беларусі, аднак лічыць беларускую мову "ўмовай дэмакратызацыі краіны". Пра гэта гаворыцца ў распаўсюджанай прэзідыюмам Рады БНР заяве.

Як паведамляў БелаПАН, "Нямецкая хваля" выйграла тэндэр Еўракамісіі і восенню гэтага года плануе пачаць выпуск штодзённай інфармацыйнай праграмы пра Беларусь і для Беларусі на рускай мове. Аднак супраць рускамоўнага вяшчання выступілі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі і нацыянальна арыентаваных рухаў. Сярод іх — кіраўнік грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў, палітыкі Станіслаў Шушкевіч, Зянон Пазняк, Івонка Сурвіла, Вінцук Вячорка, палітолаг Віталь Сіліцкі.

У заяве прэзідыюму ўказваецца, што збліжэнне Беларусі з Еўропай магчыма на падставе "нацыянальнай самасвядомасці і культуры грамадства, якая гістарычна ўзнікла ва ўмовах еўрапейскага кантэксту". Там жа гаворыцца, што прычына "насаджэння" беларускімі ўладамі савецкай/рускай культуры ў тым, што "спадчына, якую Беларусь дзеліць з Савецкім Саюзам або Расійскай імперыяй, не выхоўвае свядомасць блізкасці з Еўропай".

Паколькі мовам, якія выкарыстоўваюць у рэспубліцы, "не ўласціва палітычнай нейтральнасць", Рада БНР гаворыць пра двайныя стандарты, якія выкарыстоўвае Еўракамісія ў выбары мовы. Так, у заяве даецца прыклад існавання асобнай службы на ўкраінскай мове на "Нямецкай хвалі".

"У сённяшніх умовах праект вяшчання на Беларусь не па-беларуску не будзе эфектыўным для дасягнення пастаўленых мэтаў, паколькі канкрэтнае палітычнае значэнне, уласцівае ў рэаліях Беларусі рускай мове, уступае ў вострую супярэчнасць з сутнасцю яго прызначэння", — гаворыцца ў заяве. Прэзідыюм Рады БНР выказаў шкадаванне аб рашэнні Еўракамісіі падтрымаць радыёвяшчанне на Беларусь на рускай мове і заклікаў перагледзець гэтае рашэнне для таго, каб фармат радыёвяшчання адпавядаў мэтам — дасягненню дэмакратыі і свабоды ў Беларусі.

*М. РАХЛЕЙ, БелаПАН.*

Botschaft
der Bundesrepublik Deutschland
Minsk
Пасольства
Федэратыўнай Рэспублікі Германія
ў Мінску

Мінск, 10 жніўня, 2005 года

У сувязі з паступаючымі на імя Пасла Германіі лістамі, у якіх выказваецца пратэст супраць арганізацыі перадач радыёстанцыі "Нямецкая хваля" па беларускай тэматыцы на рускай мове, Пасольства займае наступную пазіцыю:

1. Для "Нямецкай хвалі" пытанне заключаецца ў тым, ці трансляваць абмежаваны па часе інфармацыйны блок на рускай мове, матэрыялы якога мелі б асаблівую цікавасць для слухачоў у Рэспубліцы Беларусь, або захаваць усё ў ранейшым выглядзе, г.зн. без спецыяльных перадач па беларускай тэматыцы.

Такім чынам, аб стварэнні на радыёстанцыі "Нямецкая хваля" праграмы на беларускай мове гаворка не ідзе.

На думку Пасольства імкненне "Нямецкай хвалі" садзейнічаць пераадаленню інфармацыйнага дэфіцыту ў Беларусі заслугоўвае прызнання.

2. Беларускія грамадзяне патрабуюць у сваіх лістах на імя Пасла Германіі стварэння праграмы "Нямецкай хвалі" на беларускай мове. Пры гэтым складваецца ўражанне, што яны аддалі б перавагу таму, каб існая зараз сітуацыя, пры якой на "Нямецкай хвалі" не будзе асобнага праграмнага элементу для Беларусі, захавалася б і надалей.

Пасольства спадзяецца, што гэтыя лісты з выказваннем пратэсту не стануць для "Нямецкай хвалі" падставай для адмовы ад планаванага радыёстанцыяй беларускага праграмнага элементу.

3. Радыёстанцыя "Нямецкая хваля" ажыццяўляе сваё вяшчанне на мовах, колькасць якіх абмежавана. Яна імкнецца заўсёды арыентавацца на актуальныя тэмы. Пры гэтым яна не мае фінансавых сродкаў для стварэння праграмы на беларускай мове.

Апытанні грамадскай думкі, якія праводзяцца незалежнымі інстытутамі, пацвярджаюць важную ролю рускай мовы, як адной з дзвюх афіцыйных моваў, асабліва ў палітычнай сферы.

## Заява ЦК БСДП

### "Аб беларускамоўных трансляцыях радыёстанцыі "Deutsche Welle"

Цэнтральны Камітэт БСДП (Грамада) адзначае, што перспектыва трансляцый нямецкай радыястанцыі "Deutsche Welle" на Беларусь адпавядае намаганням дэмакратычных сіл нашай краіны па стварэнні свабоднай інфармацыйнай прасторы.

Разам з тым, выклікае пытанні той факт, што ажыццяўляць гэтыя трансляцыі плануецца толькі на рускай мове. Гэта парушае патрабаванне дзейнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб існаванні на яе тэрыторыі дзвюх дзяржаўных моў, а таксама правы беларускамоўных грамадзян нашай дзяржавы.

ЦК БСДП (Грамада) звяртае ўвагу еўрапейскіх калег на тое, што падчас правядзення апошняга перапісу насельніцтва Беларусі прыблізна 80 адсоткаў грамадзян назвалі сябе беларусамі, а больш за палову заявілі пра тое, што яны штодзённа карыстаюцца беларускай мовай.

Наша партыя паслядоўна выступала і выступае за адраджэнне беларускай культуры, гісторыі і мовы, як гарантаў захавання суверэнітэту і незалежнасці краіны.

Мы звяртаемся да кіраўніцтва радыёстанцыі з прапановай знайсці магчымасць арганізаваць вяшчанне беларускай рэдакцыі з улікам вынікаў перапісу на абедзвюх дзяржаўных мовах без дыскрымінацыі большай часткі насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

Прынята ЦК БСДП (Грамада).

Г. Мінск. 13.08.2005.

## З 22 ПА 26 ЖНІЎНЯ Ў МЕНСКУ ПРОЙДУЦЬ ПІКЕТЫ Ў ЗНАК ПРАТЭСТУ СУПРАЦЬ ПЛАНАЎ РУСКАМОЎНАГА ВЯШЧАННЯ НА БЕЛАРУСЬ РАДЫЁ "НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ"

У Менску плануецца серыя пікетаў у знак пратэсту супраць планаў рускамоўнага вяшчання на Беларусь радыё "Нямецкая хваля". Як паведаміў БелаПАН адзін з арганізатараў акцыі, выпускнік Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры Зміцер Каспяровіч, акцыі будуць праводзіцца штодзённа з 22 па 26 жніўня, з 14 да 17 гадзін, на плошчы Бангалор.

Паводле слоў Каспяровіча, арганізатары прасілі Мінгарвыканкам санкцыянаваць правядзенне пікетаў каля будынка пасольства Германіі, па вуліцы Захарава. Аднак у афіцыйным адказе гарадскіх уладаў, атрыманым 18 жніўня, паведамляецца, наступнае:

*"Мінгарвыканкам дазваляе правесці пікетаванне з 22 па 26 жніўня 2005 г. з 14.00 да 17.00 у парку Дружбы народаў (у раёне плошчы Бангалор).*

*Мерапрыемства правесці без стварэння перашкодаў пешаходнаму і транспартнаму руху, з колькасцю ўдзельнікаў да 50 чалавек.*

*Канкрэтнае месца правядзення мерапрыемства, пытанні забеспячэння грамадскага парадку неабходна ўзгадніць з ГУУС.*

*Разам з тым нагадваем, што захаванне грамадскага парадку і дзейнага заканадаўства ўдзельнікамі мерапрыемства ажыццяўляюць яго арганізатары і што за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення мерапрыемства прадугледжана адказнасць у адпаведнасці з дзейным заканадаўствам.*

Каментуючы БелаПАН маючае адбыцца пікетаванне, старшыня рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) Алег Трусаў адзначыў, што ініцыятыва маладых людзей сведчыць аб актыўнасці і патрыятызме беларускай моладзі. "Гэтая акцыя яшчэ раз сведчыць аб тым, што імкненне ажыццяўляць перадачы "Нямецкай хвалі" на рускай мове з'яўляецца, мякка кажучы, спробай зняважыць беларускай нацыі. І нямецкі бок павінен гэта зразумець. Калі маладыя людзі па сваёй ініцыятыве падаюць заяўку на пікет і гатовы яго арганізаваць, гэта гаворыць аб тым, што родная мова з'яўляецца для іх велізарнай каштоўнасцю", — заявіў Алег Трусаў.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## DEUTSCHE WELLE

Спадару Алегу Трусаву,
Таварыства беларускай мовы,
Румянцава, 13

220034, Мінск, Беларусь

Глыбокапаважаны спадар Трусаў,

сардэчны "Дзякуй" за вашую цікавасць да запланаванай Беларускай праграмы "Нямецкай хвалі". Вашыя крытычныя заўвагі мы прачыталі ўважліва і прынялі да ведама. Мы разумеем таксама расчараванне некаторых патэнцыйных слухачак і слухачоў, якія хочуць ад "Нямецкай хвалі" беларускіх праграм, і тут даведаліся, што мы будзем перадаваць іх на рускай мове. Для гэтага існуе шэраг падставаў, якія я Вам ахвотна даваду:

- будучая перадача для Беларусі і пра Беларусь ёсць толькі частка нашай рускай праграмы. З арганізацыйных і фінансавых меркаванняў мы не можам стварыць уласна беларускай рэдакцыі. Безумоўна, было б дзіўна слухаць, калі б пасярод рускай перадачы, раптам пачаў бы перадавацца беларускі блок;

- папрок у тым, што мы выконваем дамову паміж прэзідэнтамі Лукашэнкам і Пуціным, мы рашуча адмятаем. Перадача спланавана як альтэрнатыўная да сродкаў масавай інфармацыі Беларусі, якія кіруюцца дзяржавай і падлягаюць дзяржаўнай цэнзуры, яна будзе сыходзіць з арыентацыі на каштоўнасці дэмакратыі, свабоды прэсы і грамадзянскіх правоў, а таксама ўтрымоўваць моцны еўрапейскі акцэнт. Гэта вялікая памылка лічыць, што той хто заўсёды перадае на рускай мове, той аддае сябе ў рукі палітычных гандляроў у рэгіёне. "Нямецкая хваля" абавязана трымацца законаў дэмакратыі і правоў чалавека. Мы кіруемся гэтымі прынцыпамі ці то мы перадаём па-руску, ці то па-англійску, ці то па-нямецку ці на іншых шматлікіх мовах;

- аб праблеме акцэнтацыі на пытанні мовы перадачы маю мала разумення. Для ўсіх тут у камандзе "Нямецкай хвалі" раней і ў будучым перш за ўсё важны змест, для чаго Вы павінны даць нам шанец. Для крытыкі зместу і заўвагаў, калі перадача ідзе, мы само сабой адкрытыя. Руская мова для людзей у Беларусі не з'яўляецца замежнай, а таксама цверджанне, што гэта мова варожасці і прымусу, не адпавядае рэчаіснасці;

- нашая штодзённая перадача для пяці цэнтральнаазіяцкіх рэспублік вялася больш за 4 гады па-руску, ніхто да гэтага часу ніякай крытыкі не выказваў, наадварот, гэты блок перадачаў атрымаў вялікі поспех;

- значэнне нацыянальнай мовы для нас таксама зразумелае, як і для Вас. Раней даваліся беларускія элементы ці па-радыё ці ў Інтэрнэце. Нам важна было не далей дыскутаваць, хто што павінен рабіць, а пачынаць канкрэтныя праекты;

- і нарэшце: з рускамоўнай радыёперадачай мы можам не толькі ахапіць кантынгент слухачоў з Беларусі, а таксама дасягнуць людзей з памежных раёнаў Расіі, а таксама Украіны, для якіх, мы ўпэўненыя, нашая інфармацыя будзе цікавай.

З сяброўскім прывітаннем Карнелія Рабітц,
кіраўнік рускай праграмы.
*(Неаўтарызаваны пераклад з нямецкай.)*

